*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 42 (530) 24 КАСТРЫЧНІКА 2001 г.

# 30 кастрычніка -- Дзень ахвяраў палітычных рэпрэсій



## Народную памяць пад асфальт

Тое, што супрацьстаянне беларускай грамадскасці і ўладаў у Курапатах узнікла перад 30-м кастрычнікам -- гэта выпадковасць.У нашай краіне яно магло ўзнікнуць у любы дзень. У краіне, у якой манкруцтва ўзведзена ў ранг дзяржаўнай ідэалогіі, будоўля, дзе асфальт кладуць па касцях нявінна расстраляных нікога не можа здзівіць, бо асноўная іх задача пакласці асфаль па нашай памяці.

**На здымку:** у гэтыя дні ў Курапатах на шляху бульдозераў устанаўліваюцца крыжы, каб кожны трактарыст бачыў, што едзе ён не толькі па нябачнай сёння крыві тысяч ахвяр, але і па душы ўсяго народа.

**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

## Сойм БНФ "Адраджэньне"

***13 гадоў назад 19 кастрычніка 1988 года ўтвораны Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне".***

Сёння Фронт перажывае сур'ёзныя арганізацыйныя праблемы. Два паседжанні падрад 13-га і 20-га кастрычніка Сойм БНФ вырашаў пытанні прадстаўніцтва на чарговыя з'езды ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ, што спланаваныя на 14 снежня 2001 года.

13-га кастрычніка Сойм не сабраў кворуму, 20-га кворум быў, але, да прыкладу, цалкам адсутнічала Гарадзенская вобласць. Прынятая схема вылучэння дэлегатаў далёкая да ідэальнай і выклікае пярэчанні многіх нізавых структураў.

Трэба меркаваць, што з'езд абяцае быць не простым, таму зусім правамоцна гучаць прапановы пра скліканне перад з'ездам Соймавай канферэнцыі, каб пастарацца зняць многія пытанні да з'езду.




10 гадоў назад 12-13 кастрычніка 1991 года прайшоў Устаноўчы з'езд Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў. Асноўнае значэнне гэтай падзеі заключаецца ў тым, што былі прадэманстраваны воля, гатоўнасць і рэальны патэнцыял беларускага афіцэрскага корпусу, які на той момант налічваў да 40 тысяч чалавек, да стварэння Беларускага Войска. Гэты з'езд даў С. Шушкевічу важкія аргументы перад камуністычна-савецкай наменклатурай пры падрыхтоўцы да Белавежскай пушчы. З'езд паказаў, што імперскі кадравы бунт Беларускай вайсковай акругі, пра які тады часцяком гаварылі, становіцца не актуальным, Беларусь мае дастаткова афіцэраў, каб замясціць усе пасады.

БЗВ у кароткі тэрмін прадэманстравала гатоўнасць да стварэння цалкам нацыянальнага, беларускамоўнага войска. У Казахстане быў выдадзены Шыхтовы статут Беларускага Войска, распрацавана ўся вайсковая тэрміналогія, былі выдадзены Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік С. Судніка, і Расейска-беларускі вайсковы слоўнік на 8 000 словаў С. Судніка і С. Чыслава. Гэта змусіла Міністэрства абароны Беларусі выдаць "Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў" пад рэдакцыяй кандыдата ваенных навук У. Язэпчыка і кандыдата філалагічных навук М. Крыўко.

Працэсы беларусізацыі войска былі спынены неспрыяльнай палітычнай сітуацыяй, але падрыхтаваная тэрміналагічная база нікуды не дзелася і ў свой час будзе запатрабаваная.

Спадару Навіцкаму Г. В.
Прэм'ер-міністру
Рэспублікі Беларусь

**Паважаны Генадзь Васілевіч!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе Вас з прызначэннем на вельмі высокую і адказную пасаду ў гэты нялёгкі і пераломны час для нашай Бацькаўшчыны.

Спадзяёмся, што Вы зробіце ўсё магчымае для надання беларускай мове, мове тытульнай нацыі нашай краіны, рэальнага статусу дзяржаўнай беларускай мовы.

ТБМ таксама хацела б даведацца, як Вы збіраецеся выконваць перадвыбарчую праграму А. Р. Лукашэнкі, дзе падкрэсліваўся неабходнасць усталявання рэальнай роўнасці дзвюх дзяржаўных моў. У сувязі з гэтым просім адказаць на наступныя пытанні:

- на якой мове будзе весціся справаводства ў апараце Савета Міністраў Беларусі?
- на якой мове будуць праводзіцца працоўныя паседжанні Савета Міністраў нашай краіны?

**З павагай**
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

**Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа абвяшчае набор вучняў 7 класа на падрыхтоўчыя курсы.**

Заняткі праводзяцца па беларускай мове, літаратуры, гісторыі Беларусі, замежных мовах.

Пачатак заняткаў – па меры камплектавання груп, два разы на тыдзень з 16.30

Тэлефоны для даведак: 2261072, 2273277.
Наш адрас: 220050, г. Менск, вул. Кірава, 21.

**ШАНОЎНЫЯ БАЦЬКІ!**

**ЭВАНГЕЛЬСКАЯ НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА**

Аб'яўляе набор дзяцей 7-11 гадоў на штонядзельныя біблійныя ўрокі.

Акрамя вывучэння Біблії будуць праводзіцца заняткі па англійскай мове, навучанне спевам, краязнаўчыя экскурсіі.

Запіс у школу праз тэл. 270-31-47 і 258-99-28

**ЗЫЧЫМ БОЖАЕ ЛАСКІ!**

Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Мінчук Георгій (Менск) – 5.000 руб.
2. Казлоўская І.І. – 800 руб.
3. Івуць Валянціна (г. Слуцк) – 1000 руб.
4. Катляроў Аляксандр (г. Слуцк) – 1000 руб.
5. Надзея Барт-Юрэвіч (Германія) – 100 DM
6. Архітэктары - 2000 руб.
7. Пашкоў Сяргей (Менск) – 500 руб.
8. Галіноўская Ніна Васілеўна – 5000 руб.
9. Суполка "Берагіня" гімн. №4 – 4.000 руб.
10. Ганчарова Людміла (Менск) – 500 руб.
11. Галай Аркадзь (Менск) – 1000 руб.
12. Кановіч Алесь– 5000 руб.
13. Касцюк Ю. В. (Наваполацк) – 1000 руб.
14. Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад) – 2000 руб.
15. Анатоль Сазонаў (Слуцк) – 1000 руб.
16. Понт са Свабоды - 10$

Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ сёння – гэта інвестыцыя ў росквіт незалежнай Беларусі і мовы яе народа заўтра!

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ
RR
РАДЫЁ РАЦЫЯ
НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ
1080 кГц (490 м) 22:00-24:00
612 кГц (490 м) 07:00-11:00
НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6035 кГц (49 м) 07:00-09:00
6180 кГц (49 м) 13:00-15:00
6010 кГц (49 м) 21:00-23:00
WWW.RACYJA.PL
220102, Менск, а/с 144

**Друк гэтага нумара газеты "Наша слова" аплачаны з грошай, дасланых Федэральнай радай беларускіх арганізацыяў Аўстраліі.**

# Гэты нумар "Нашага слова" -- 200-ты нумар, выдадзены ў Лідзе





30 кастрычніка – Дзень ахвяраў палітычных рэпрэсій

# Сяргей Новік-Пяюн – вязень трох рэжымаў

***Сяргей Новік-Пяюн – сімвал нескаронасці беларусаў ні перад якімі каланізатарамі. Ён сядзеў пры ўсіх уладах, пры якіх жыў: пры паляках, пры немцах, пры саветах і пры ўсіх сядзеў за тое, што ён – беларус і ніяк не хоча гэтага выракацца.***

***Сп. Баркоўскі з Якуцка даслаў у рэдакцыю "Наша слова" выпіску з "Асабістай справы № 13644 высыльна – пасяленца Новіка Сяргея Міхайлавіча", якую мы і прапануем нашым чытачам у перакладзе на беларускую мову.***

**Арк.3**

**Падпіска**

25.08.1953 г. мне Новіку Сяргею Міхайлавічу заяўлена, што згодна ... вызначаны ў высылку на пасяленне ў раёне Калымы і не маю права нікуды выязджаць (хаця б часова) з указанага мне сталага месца жыхарства без папярэдняга дазволу органаў МДБ і абавязаны перыядычна асабіста з'яўляцца на рэгістрацыю ў месца і тэрміны, якія мне будуць указваць органы МДБ.

За парушэнне гэтай падпіскі адказваю па Ўказу Прэзідыюму Вярхоўнага Савету СССР ад 26 лістапада 1948 г., якім прадугледжваецца мера пакарання 20 гадоў катаржных работаў.

Асабісты подпіс С. Новік

Падпіску адабраў (подпіс).

**Арк.4.**

| | |
|---|---|
| МУС<br>Управа асобага лагера<br>№ 5<br>Спецаддзел<br>14.VII. 1953 г.<br>№ 56/2 004594<br>г. Магадан | Зусім сакрэтна.<br>Начальніку райаддзела<br>МУС па УГПУ<br>Пас. Нера<br>Копія: Начальніку<br>9 аддзела УМУС<br>на ДС падпалкоўніку<br>тав. Кандраццеву.<br>Тут. |

У адпаведнасці з нарадам аддзела "А" МУС СССР № 9/2 – 10482 ад 28 лютага 1953 г. пры гэтым накіроўваем з копіяй прыгавора Новіка Сяргея Міхайлавіча, які вызваляецца з лагера, тэрмін пакарання заканчваецца 12 верасня 1953 года, для накіравання апошняга ў высылку на пасяленне.

Дадатак: па тэксту на ... аркушах.
Начальнік управы
Асобага лагера № 5 МУС СССР
падпалкоўнік (подпіс) Васільеў.
Начальнік спецаддзела
капітан (подпіс) Шытаў.
Вык. Пячорына.

**Арк. 5.**

| | |
|---|---|
| СССР<br>Міністэрства<br>Дзяржаўнай<br>Бяспекі<br>9 управа<br>28 лютага 1953 г.<br>№ 9/2 – 10482<br>гор. Масква<br>Увах.202531<br>18/III-53 | Зусім сакрэтна<br>Літар "А"<br>Экз. №1<br>На № 14/56/2-10161<br>Начальніку ўправы<br>Берагавога лагера<br>МУС СССР палкоўніку<br>Ўнутранай службы<br>тав. Васільеву, г. Магадан<br>Хабараўскага краю. |

Копія: Начальніку УМДБ на Далёкай Поўначы, палкоўніку Дзяржбяспекі тав. Жалтухіну Н. А. г. Магадана, Хабараўскага краю.

**НАРАД**

На адпраўку заключонага ў высылку на пасяленне Новіка Сяргея Міхайлавіча, 1906 года нарадж., асуджанага Вайсковым Трыбуналам войскаў НКУС Баранавіцкай вобласці 24 сакавіка 1945 г. па арт.арт. КК БССР 63-2 за ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі "БНС" на 10 гадоў, канец тэрміну 3 лістапада 1953 г. Пасля заканчэння тэрміну пакарання перадаецца ў распараджэнне УМДБ на Далёкай Поўначы для накіравання ў высылку на пасяленне.

Начальніку УМДБ на Далёкай Поўначы прыбыццё Новіка просім пацвердзіць.

Дадатак: Падстава для ўтрымання ў высылцы на пасяленні на 2 аркушах у 2 адрасы.

Нам. начальніка 2 аддзела 9 упраўлення МДБ СССР
палкоўнік дзяржбяспекі (подпіс) Цюрын.
Нам. начальніка 3 аддзялення
маёр дзяржбяспекі (подпіс) Карпенкаў.
Выканавец Карабанаў.



Сяргей Новік - Пяюн

**Арк. 6**

**Зусім сакрэтна**

**ПРЫГАВОР**

Імем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік 24 сакавіка 1945 года ў гор. Слоніме в /трыбунал в / НКУС Баранавіцкай вобласці ў складзе старшыні капітана юстыцыі Юрчыка і членаў супрацоўнікаў НКУС Філончыка, Герасімчыка, пры сакратары ст. сяржанце Беляўскіх разгледзеўшы ў закрытым судовым паседжанні справу па абвінавачванні Новіка Сяргея Міхайлавіча, 1906 г.н. гр-на СССР, ураджэнца вёс. Лявонавічы, Нясвіжскага р-на, гор. Слонім, Баранавіцкай вобл., з сялян-беднякоў, службоўца, беспартыйнага, з незакончанай вышэйшай адукацыяй, беларуса, жанатага, не судзімага, у Чырвонай Арміі не служыўшага, у злачынстве, прадугледжаным арт. 63-2 КК БССР матэрыяламі папярэдняга і судовага следства Вайсковы Трыбунал

**устанавіў:**

Новік у траўні м-цы 1941 года Слонімскім райваенкаматам быў прызваны ў Чырвоную Армію і служыў у 16 роце сувязі, у чэрвені м-цы 1941 года Новік адступіў разам са сваёй часткай, з Чырвонай Арміі дзэртаваў і застаўся жыць на часова акупаванай немцамі тэрыторыі Баранавіцкай вобласці ў гор. Слоніме, дзе ў жніўні 1941 года да 25 лістапада 1943 года працаваў дырэктарам краязнаўчага музея, адначасова быў сябрам антысавецкай арганізацыі "БНС", у канцы 1942 года Новік уступіў у існую ў горадзе Слоніме антыфашысцкую арганізацыю. Вясной 1943 года Новік падрабязна распавёў Данелюку, які быў агентам "СД" пра існую антыфашысцкую арганізацыю ў гор. Слоніме. Агент "СД" падрабязна пазнаёміўся з працай гэтай арганізацыі, паведаміў атрыманыя звесткі ў контрвыведвальныя органы "СД", у выніку чаго ў лістападзе месяцы 1943 года нямецкай паліцыяй былі арыштаваныя сябры антыфашысцкай арганізацыі Менг, Сенчык, Барысевіч і іншыя, у тым ліку быў арыштаваны і Новік. Будучы арыштованым Новік на допыце шэфу "СД" падрабязна распавёў пра дзейнасць антыфашысцкай арганізацыі. Ён выдаў дадаткова Прошкіну, Макарэвіч і Кушыца, якія былі арыштаваныя і накіраваныя ў канцлагеры, і лёс якіх невядомы.

На аснове выкладзенага в/трыбунал прызнаў Новіка вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага арт. 63-2 КК БССР,

**прыгаварыў:**

Новіка Сяргея Міхайлавіча на аснове арт. 63-2 КК БССР з прымяненнем арт. 51 КК пазбавіць волі з адбываннем у ППЛ тэрмінам на дзесяць (10) гадоў з паражэннем у правах па п.п. а, б, в, г арт. 34 КК тэрмінам тры (3) гады без канфіскацыі маёмасці з-за адсутнасці яе ў асуджанага. Тэрмін адбыцця меры пакарання лічыць з 14 снежня 1944 года.

Прыгавор канчатковы і касацыйнаму абскарджванню не падлягае.

Сапраўдная, за належнымі подпісамі, копія правільная, старшыня суда капітан юстыцыі (Юрчык).

Копія з копіі правільная.
Ст. інспектар
Ст. лейтэнант (подпіс).

***Мы не мелі на мэце каментаваць ці даследаваць гэтыя шэдэўры сталінскай юрыспрудэнцыі, калі склад злачынства падганялі пад неабходны прыгавор.***

***Мы абмяжуемся прывядзеннем гэтага фактычнага матэрыялу з разлікам на тое, што ён будзе карысным даследчыкам беларускага нацыянальнага руху і палітычных рэпрэсіяў супраць яго ўдзельнікаў.***

## Памёр Максім Лужанін



13 кастрычніка 2001 года на 92 годзе жыцця памёр беларускі паэт, празаік, перакладчык, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Максім Лужанін (сапр. Каратай Аляксандр Амвросевіч).

М. Лужанін нарадзіўся 20.10.(2.11.) 1909 г. у в. Прусы Салігорскага раёна. Скончыў Менскі бел. пед. тэхнікум (1928), вучыўся ў БДУ (1928-31). Працаваў у час "Узвышша", на бел. радыё. 10.8.1933 г. рэпрасаваны. Пакаранне адбываў у Марыінску Кемераўскай вобласці. Рэабілітаваны ў 1956 годзе. Працаваў у "Звяздзе", "Вожыку", на "Беларусьфільме". Аўтар паэтычных, празаічных і гумарыстычных кніг. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа. Пераклаў на бел. мову "Гора ад розуму" Грыбаедава і "Вечары на хутары ля Дзіканькі" Гогаля.

Пахаваны Максім Лужанін у в. Паперня Менскага раёна, на тых жа могілках, дзе знайшла спачын яго жонка, паэтка Яўгенія Пляўфбаўм.

## ЛІЦЭІСТЫ СВЕТЛАГОРСКА ВЫКЛІКАЮЦЦА Ў МІЛІЦЫЮ

17 кастрычніка ў міліцыю быў раптоўна выкліканы шэраг навучэнцаў Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў (якія нядаўна створаны ў сярэдняй школе № 1 горада Светлагорска ў выніку рэарганізацыі філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа).

У верасні гэтага года загадчыца Аддзела адукацыі выканаўчага камітэту горада Светлагорска (Гомельская вобласць) Г. В. Філіповіч выдала загад аб расфармаванні філіі НДГЛ імя Я. Коласа, першай ў горадзе установы адукацыі новага тыпу, якая дзейнічала з 1993 г. Фармальнай прычынай загаду сталі змяненні ў рэспубліканскай нарматыўнай дакументацыі ў выніку чаго НДГЛ імя Я. Коласа (г. Менск) не можа цяпер мець філіі ў іншых гарадах. Але ўвагу грамадскасці прыцягнуў той факт, што загад быў абвешчаны пасля правядзення ў філіі сустрэчы з вядомым пісьменнікам і гісторыкам Уладзімірам Арловым, якая адбылася 7 верасня напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. На працягу трох тыдняў работнікі і навучэнцы філіі адстойвалі права захаваць свой калектыў, прычым супрацоўнікі навучальнай установы працавалі ўвесь гэты перыяд бясплатна. Навучэнцы ў вольны ад заняткаў час неаднаразова праводзілі пікеты перад будынкам Аддзелу адукацыі гарадскога выканаўчага камітэту, а таксама на Цэнтральнай плошчы горада перад будынкам гарадскога выканаўчага камітэту. У выніку змагання калектыў філіі, хоць і даў згоду на ўваходжанне ў склад адной з сярэдніх школ, аднак пры ўмове стварэння асобнага творчага аб'яднання – Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў (з поўным захаваннем складу выкладчыкаў і навучэнцаў, раскладу заняткаў, навучальнага плану і праграм, абсталявання і гэтак далей).

Цяпер інспектар інспекцыі па справах непаўнагадовых Аддзелу ўнутраных спраў выканаўчых камітэтаў горада і раёна, капітан міліцыі Зязетка праводзіць апытанне старшакласнікаў пра ўдзел у несанкцыянаваных пікетах, пра тое, як і хто наладжваў гэтыя пікеты і г.д. Навучэнцаў спрабуюць пераканаць у тым, што іх удзел у пікетах быў сур'ёзным замахам на грамадскі парадак у горадзе (Варта адзначыць, што каля 90% ліцэістаў складаюць дзяўчыны ва ўзросце 15-17 год.) Прычым робіцца ўсё гэта паводле даручэння гарадскога выканкаму.

Нікому з ліцэістаў, хто выклікаўся ў міліцыю, не былі дасланы павесткі (што з'яўляецца парушэннем адміністрацыйнага заканадаўства з боку інспектара). Навучэнцы альбо выклікаліся па тэлефоне, альбо да іх дадому накіроўваліся міліцыянты з вусным паведамленнем аб выкліку ў інспекцыю. Калі адзін з навучэнцаў пазваніў у інспекцыю па справах непаўнагадовых і спытаў, чаму яго выклікаюць, яму адказалі: "Прыйдзеш і даведаешся". У час апытання навучэнцаў у інспекцыі не складаўся пратакол ці іншы дакумент. Педагагічны калектыў беларускіх ліцэйскіх класаў таксама не быў пастаўлены ў вядомасць аб тым, што навучэнцы выклікаюцца ў міліцыю.

Па ўсёй верагоднасці, выклікі ліцэістаў у міліцыю ў бліжэйшыя дні будуць працягвацца.

**Дадатковая інфармацыя:**
тэл.факс (02342) 47613 (Тэльман Маслюкоў).

# Тры складнікі нашай дзейнасці

Я хачу засяродзіць Вашую ўвагу на галоўных складніках, якія палягаюць у аснове эфектыўнай дзейнасці любой грамадскай арганізацыі ва ўсім свеце. Гэта, так бы мовіць, фінансавы, ідэалагічны і арганізацыйны рэсурсы.

Што да апошняга, то трэба адзначыць, што цягам двух гадоў паміж з'ездамі Таварыства беларускай мовы не толькі аднавіла дзейнасць большасці рэгіянальных арганізацый, але і структурызавала іх. На тэрыторыі нашай краіны сёння паспяхова працуюць 94 арганізацыі ў 74-ох (з 118-ці) раёнах. Калі на мапу Беларусі нанесці ўсе гэтыя гарадскія і раённыя арганізацыі, злучыць іх з абласнымі і з Менскам, атрымаецца магутнае "карэнішча", здольнае даць маладыя здаровыя "парасткі" адраджэнцаў роднай мовы. Да арганізацыйнага рэсурсу належаць таксама навыкі і ўменне рэгіянальных лідараў ТБМ кіраваць арганізацыяй. З гэтай мэтай Сакратарыят ТБМ пастаянна інфармуе старшыняў мясцовых філіяў пра семінары і трэнінгі, што маюць адбыцца.

Рэспубліканскай Радай ТБМ распачата поўнамаштабная праца па распрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы, якая мае быць сапраўдным ідэалагічным рэсурсам нашай арганізацыі на бліжэйшы час. Упэўнены, калі мы зможам пры распрацоўцы гэтага дакумента пазбегнуць залішняй эмацыйнасці, а разважліва і з вялікай мудрасцю падыйсці да кожнай фармулёўкі, падрабязна і рэальна акрэсліць план дзеянняў, вызначыць тэрміны рэалізацыі кожнай задачы, размеркаваць адказных за выкананне палажэнняў Стратэгіі паміж цэнтрам, рэгіянальнымі радамі, суполкамі, роднаснымі і зацікаўленымі арганізацыямі, - мы зможам на "карэнішчы". сплеценым з арганізацыйных структур Таварыства, вырасціць тое "дрэва", якое ўрэшце здолее прынесці плады. Але любы жывы арганізм расце і развіваецца, калі мае пэўнае сілкаванне, без якога біялагічныя працэсы спыняюцца, і не даюць магчымасці дрэву расквітнець, а карэнішчу яшчэ больш разгалінавацца.

Я маю на ўвазе самае слабое месца нашай арганізацыі – гэта фінансавы рэсурс. Лічу, што гэты рэсурс патрабуе больш пільнага разгляду. Мяркую, што дэкрэт № 8 аб замежнай фінансавай дапамозе не паспрыяе паляпшэнню фінансавага становішча Таварыства, але і не надта пагоршыць. Пакуль што значна прасцей знайсці грошы на выкананне экалагічных праектаў (яны таксама патрэбныя нашаму грамадству), чым на ратаванне скарбу еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі, адной з найстаражытных славянскіх моў! У сённяшніх умовах, на жаль, таксама немагчыма, разлічваць і на дзейсную падтрымку дзяржавы. Бо якая можа быць падтрымка дзяржаўнай беларускай мовы, калі кіраўнік краіны лічыць, што на ёй "нельзя сказаць нічаво вялікага"?

То можа ўсе нашыя планы па развіцці беларускай мовы так і застануцца марамі летуценнікаў, і ім ніколі не здзейсніцца? Я лічу, што гэта не так. Нам трэба звярнуць увагу на ўласны беларускі досвед, а менавіта фінансаванне дзейнасці ТБШ на акупаваных Польшчай тэрыторыях у 20-х гадах мінулага стагоддзя. Тады нашыя папярэднікі выпраўляліся на заробкі ў замежжа і бралі на сябе пачэсны абавязак частку грошай ахвяраваць на беларускае школьніцтва. Ці возьмем, да прыкладу досвед нашых суседзяў, палякаў. Як вядома, частка польскіх земляў пасля падзелу Рэчы Паспалітай знаходзілася пад немцамі. І дзейнае на тых тэрыторыях заканадаўства прадпісвала селяніну, які не мог сплаціць пазыкі, прадаваць свой кавалак зямлі. А першачарговае права на набыццё участка меў немец. Але польскія сяляне здолелі зарганізавацца і ўтварыць таемныя касы ўзаемадапамогі, у дзейнасці якіх прымалі удзел прадстаўнікі ўсіх пластоў грамадства, каб не аддаць ніводнага сажня сваёй зямлі чужынцам.

Я перакананы, што акрамя нас саміх, беларусаў, ніхто не дасць грошы на беларускую справу. Таму лічу, што абраная Рэспубліканская Рада павінна неадкладна распачаць актыўныя кансультацыі з прадстаўнікамі беларускіх дыяспар з мэтай арганізацыі за мяжой адпаведных структур, якія б займаліся часовым працаўладкаваннем нашых суайчыннікаў і прыхільнікаў у краінах бліжняга замежжа. Нават невялікія заробкі, да прыкладу, у Чэхіі будуць адчувальнымі для паляпшэння асабістага фінансавага становішча такіх "валанцёраў". Бо, вядома, людзі, што трымаюцца беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці, як правіла, не могуць прэтэндаваць на высокааплачваную працу, таму што большасць рускамоўнага начальства лічыць іх "неблаганадёжнымі". Некаторыя з нашых сяброў былі звольненыя нават з нізкааплочваных пасадаў настаўнікаў і на працягу доўгага часу не мелі магчымасці працаўладкавацца.

Варта і кіраўнікам рэгіянальных арганізацый распачаць працу па фармаванні ўстойлівага кола ахвярадаўцаў з ліку прадпрымальнікаў сярод якіх найбольш прыхільнікаў беларушчыны, таму што яны, як і мы, зведалі "ласку" ўладных структур. Так з агульнага бюджэту Рэспубліканскай Рады 2000 году **4 млн. 575 тыс.** рублёў – ахвяраванні прадпрымальнікаў і прыватных асоб. А складкі сябраў ТБМ – **278** тыс. рублёў, або **6 %** ад агульнага бюджэту.

Самай ўстойлівай крыніцай фінансавання для выканання канкрэтных задумаў могуць стаць ахвяраванні грамадзянаў. Калі дзейнасць Вашай рэгіянальнай арганізацыі заўважная ў рэгіёне, і Вы задумалі канкрэтны культурніцкі праект, дайце адпаведную абвестку ў мясцовых сродках масавай інфармацыі і папупцеся аб адкрыцці разліковага рахунку арганізацыі ў банку. Пакуль што заканадаўства не прадугледжвае падаткаў з ахвяраванняў грамадзян і складак сяброў арганізацыі, таму і асаблівай бухгалтарскай працы і клопатаў у Вас не будзе.

Але найбольш ***папулярнай і дзейснай (стабільнай і надзейнай)*** формай фінансавання грамадскіх арганізацый у цывілізаваных краінах з'яўляюцца складкі сяброў арганізацыі. Прапаную паразважаць і абмеркаваць з сябрамі ў суполках магчымасць пераходу на штоквартальныя складкі. Назаву некалькі лічбаў. На сёння мы маем каля 9000 сяброў арганізацыі. Калі раз на квартал мы здамо па 1$ атрымаецца 36.000 $ у год. А гэта прыкладна 40 кампутараў, якіх так не стае многім арганізацыям ТБМ, ці дзесяткі тысяч беларускіх кніг, якія можна скарыстаць у якасці прызоў удзельнікам конкурсаў па адраджэнні мовы.

Шаноўныя сябры, я ўпэўнены, што гарманічнае спалучэнне ўсіх трох складнікаў, а менавіта – арганізацыйнага, ідэалагічнага і фінансавага рэсурсаў, дазволіць нам пабачыць плады на "дрэве" адраджэння роднай мовы ўжо ў бліжэйшы час.

***Намеснік старшыні ТБМ Сяргей Кручкоў.***

# Беларуская прамысловасць перастае баяцца беларускай мовы

У той час, калі ў гуманітарнай частцы беларускай наасферы не супыняецца надрыўнае змаганне за захаванне беларускай мовы і беларускай культуры, за тое, каб хацят б дасягнуць тога дакляраванага ўладамі дзвюхмоўя, у прамысловай частцы пайшлі працэсы вяртання да традыцый пачатку 90-х гадоў. Пакуль што далёка да беларусізацыі вытворчых працэсаў, бухгалтэрыі, маркентынгу, але беларуская мова пачынае вяртацца на этыкеткі, упакоўкі, тару, інструкцыі, квіткі, цэннікі.

Характэрным з'яўляецца тое, што беларуская мова пачынае вяртацца ў сферу вытворчасці не дзесці ў адным раёне ці вобласці а па ўсёй Беларусі.

Да станоўчага фактару трэба аднесці і тое, што ў гэтых працэсах адсутнічае змагарная складовая. Яны набываюць натуральную форму, натуральную, як само жыццё. Таму ёсць усе падставы спадзявацца, што менавіта гэтая натуральнасць ўжывання беларускай мовы ў беларускай прамысловасці дае мове значна большыя перспектывы, чым сотні гнеўных артыкулаў, таму што менавіта дасягненне натуральнасці працэсу беларусізацыі зробіць яго незваротным.




*Беларускамоўная рулька з-пад смятаны, Лідскі малочнакансервавы камбінат*




*Упакоўка з-пад чыпсаў, Гарадзенскае ТАА "Крышталь". Упакоўка на 2/3 беларускамоўная*




*Дзвюхмоўная ўпакоўка з-пад едаванай солі, Салігорскае ВА "Беларуськалій"*




*Паперка ад цукерка, Нараўлянскае ААТ "Чырвоны Мазыранін"*




*Абгортка з-пад кісялю, ААТ "Лідхарчканцэнтрат"*




*Пачак з-пад пячэння, Менская фабрыка "Слодыч"*




*Гарантыйныя квіткі і талоны на мужчынскі парасон Гомельскага ВА "Гідрааўтаматыка"*





Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**ТАРАС.** Людзі пішуць, што не па срэдствам жывеш, пан сабакар. Ды і сам віжу: не п'еш, не апахмяляешся, дом – полна чаша, жынка, гаварыць, вярнулася, дзеці ў школу пашлі... не нармальна ўсё гэта! Падазрыцельна! А калі кароча, то адкудава ў цібя грошы, харч харошы і протчая раскоша. *(На Янку.)* І гэны паслугач у форме? Гэта не нармальна, што б у наш час у простага чалавека – хай он акадэмік, хай он гіцаль, буў харч ды шчэ і харошы. Я сам без малага падпалкоўнік, а харчуюся гаўном усякім. Гэта к слову... Так будзьма гаварыць, ці адразу вызываць "варанка"? *(Бярэ тэлефон).* Алё, алё, Тарас Голапузінскі гаворыць... Прыём, прыём... Як чуеце? Добра чуюць...

*Юзэф Тадэвуш паднімаецца і ідзе ў сваю кватэру. За ім, як целаахоўнік, ідзе Янка. Вяртаецца з партфелем. Вымае з яго пачку грошай і кідае на стол.*

Как гэта прыкажаце разумець, шаноўны сасед?

**ЮЗАФ.** Можна разумець як лапувку. *(Тлумачыць).* Як хабар, пане паліцыянт.

**ТАРАС.** Купляеш вертыкальнага савецкага чалавека пры іспалненні?

**ЮЗАФ.** За мільён купляю зэ вшысткімі внэнтшнасцямі. З усімі вантробамі.

**ТАРАС.** За мыльён слаўны васпітаннік слаўнай мыліцыі не прадаецца.

**ЮЗАФ.** Паложылэм ешчэ пенць кувалков. *(Кідае пяць пачак).*

**ТАРАС.** Кладзі дзесяць! Можа і згаварымся, у прынцыпе.

**ЮЗАФ** *(кідае яшчэ дзесяць пачак).* Падавіся, смроднэ быдло!

**ТАРАС** *(хаваючы грошы ў сумку).* Ад мафіёзіі чую! Бо заработаць сваімі рукамі грошы невазможна. Дарэчы, пакажы мне свае мазольныя рукі.

*Юзаф Тадэвуш паказвае далоні. Тарас Тарасавіч імгненна і прафесійна зашчоўквае на іх наручнікі.*

Абвіняю цібя па савакупнасці стацей крымінальнага кодэксу за акалотачнага, за паліцыянта, за быдло смярдзючае і за дачу служэбнаму ліцу хабару в крупном памеры. А шчэ падараваю ва ўсім тым, што следства падцьвердзіць. Словам, сядзець цібе, Юзя, да прышэсця таго прэзідэнта, які аб'явіць амністыю. *(Заглядвае ў партфель Юзафа.)* Ого! *(Кідае ў партфель хабар.)* Усё канфіскую!..

**ЮЗАФ.** А калі я раскалюся і падзялю з табою се вшысткім, што маю ў другім партфелі?

**ТАРАС.** А багата маеш?

**ЮЗАФ.** Я не лічыў, але думаю, што бардзо богато.

**ТАРАС.** Во жывуць людзі, трасца іх мацеры!

**ЮЗАФ.** Здымі бранзалеты, пойдзем лічыць.

**ТАРАС.** Можэ і здыму, але штоб усё було па-чэснаму, як у песні: цібе палавіна і міне палавіна...

**ЮЗАФ.** Слова гербавага шляхціца! Але шукай панятога. *(Садзіцца ў крэсла).*

**ТАРАС.** А што яго шукаць? Янка-нямко і будзе панятым. *(Рагоча).* Гэны будзет надзейны: нічога не чуе, нічога не бачыць, нічога нікому не скажа. *(Хавае ў сумку ўсе паперкі, тлумачыць Янку, каб вёз Юзафа ў кватэру. Усе трое знікаюць за дзвярыма).*

*З сваіх дзвярэй выглядае Янкель Янкелевіч. Потым асцярожна выходзіць і звоніць укватэру суседа. З'яўляецца Ахмет Ажгірэй-аглы.*

**ЯНКЕЛЬ.** Шолам Алейхем!

**АХМЕТ.** Селям алейкум, дарагі суседзька! Як амонлыкзмы?

**ЯНКЕЛЬ.** Чуў? Акалотачны такі, здаецца, узяўся за гэтага недабітага шляхціца, як той выхраст Жырыноўскі любіць сказаць пра тутэйшых каталікоў. Скажу табе, як брату: на яго нехта ананімна капнуў. І як табе гэта нравіцца?

**АХМЕТ** *(набожна складае рукі).* Не капай, Амане, ямы Мардахею, бо сам можаш трапіць в ню, сказана ў святым Каране.

**ЯНКЕЛЬ.** Я не разумею, пры чым тут ваш Каран, калі гэта сказана ў нашым старым Запавеце.

**АХМЕТ.** Якая разніца, дзе сказана? Абы было мудра сказана.

*Нечакана ад Юзафа Тадэвуша выходзіць Тарас Тарасавіч з даволі вялікай торбай. За ім выходзяць разняволены Юзаф Тадэвуш і Янка-нямко ў наручніках. Ахмет Ажгірэй-аглы паспявае знікнуць за сваімі дзвярыма, а Янкель Янкелевіч затрымліваецца. Янка-нямко закутымі рукамі надзявае сабе на шыю рамы і некуды выносіць іх.*

**ТАРАС** *(саркастычна).* Янкель падслухоўвае. Янкель непакоіцца. Янкель знаць хочэт рэзультаты шмона ў гербавага шляхціца Пшэляхавіцкага.

**ЯНКЕЛЬ.** А чаму б Янкелю і не ведаць, хто ў яго спіць за сцяною, калі мы жывем інтэрнацыяналам і робім раўненне на мусульманскі сцяг. А час такі, што трымай вуха вострым, а порах сухім. Бо свет зусім скурвіўся і не ведаеш ад каго чакаць ліха...

**ЮЗАФ.** Не бойся, пан гувняж. Пасля таго, як пан акалотачны зрабіў у мяне вобыск і набіў гэтую торбу грашыма, табе пагром не пагражае...

*Тарас Тарасавіч падносіць да Янкеля Янкелевіча торбу, каб той заглянуў у яе.*

**ТАРАС.** Ну, як, нішто собі ўлоў?! *(Узважвае на руцэ пачак грошай.)* Што ні шчупачок, то мільён! І не адзін...

**ЯНКЕЛЬ.** Ой вэй! Ой вэй! Што робіцца! Што дзеецца, Бедны залатар, асенізатар і вадавоз, сантэхнік і вадаправодчык, пралетар і гегімон Янкель перабіваецца з квасу на ваду ў той самы час, як іншыя прапойцы спяць на мільёнах, вяртаюць беглых жонак і таргуюць "Запарожца". І я пытаюся, я крычу нема: дзе праўда?! Дзе справядлівасць і правы чалавека ў гэтай, прасцiця за выражэнне, стране?! Я пытаюся, навошта мы толькі кормім такі нямоглы сенат і паліцыю з амонам, калі яны нічога не робяць з тымі, хто нічога не робіць, а-захлынаецца ад багацця!

**ТАРАС.** Яны чакаюць, пакуль ты сам не кінеш лозунг-заклік у шырокі масы: залатары ды гіцлі ўсяго свету, гэць да купы! *(Рагоча).*

**ЯНКЕЛЬ.** Улада рагоча. Улада рада... А каб у Янкеля сёння запыталіся, чаго ён больш за ўсяго хоча, то Янкель сказаў бы, што ён хоча, каб мама нарадзіла яго яшчэ раз у тым самым эсэсэры, дзе быў хоць нейкі парадак. Бо каб мой фатэр Янкель аджыў і глянуў, як жыве яго зон Янкель-малодшы ў гэтай зоне, у гэтым беларуска-расейскім гета, ён бы памёр зноў і адразу. І я пытаюся ад імя і, можна сказаць, па даручэнню таго самага гегімона, хто ў гэтай стране урэзоніць прахвостаў, зладзеяў, жывадзёраў і сабакароў?! І гэта ў той момант, калі мы збіраемся выбіраць прэзідэнта чорт ведае з каго, чорт ведае з чаго і навошта?! У той самы момант, калі наша незалежная і суверэнная, як старая курва, шукае, каму б яшчэ аддацца хоць за так...

**ТАРАС.** Заткніся, апазіцыйная контра!

**ЯНКЕЛЬ.** Ад калабаранта чую!

**ТАРАС.** Не пылі, Янкель! У Юзікавай торбе тваё грошы...

**ЯНКЕЛЬ** *(збянтэжана).* Як гэта ў Юзікавай торбе могуць быць мае грошы ды яшчэ столькі?..

*З'яўляецца Янка-нямко са скруткам брызенту.*

**ТАРАС.** Нямко, патлумач таварышу сіяністу...

*Янка-нямко просіць зняць наручнікі. Потым падыходзіць да сцяны, вычэрчвае пальцам невялікі квадрат, паказвае, як Янкель Янкелевіч гэты квадрат выбівае пры дапазоне зубіла і малатка, бярэ грошы і нібы кладзе іх у нібыта выбітую нішу.*

**ТАРАС.** Зразумеў?.. А А калабаранта я табе шчэ прыпомню.

*Відаць, што Янкель Янкелевіч пра тое-сёе здагадваецца, але адмоўна ківае галавою, бо голас яму ўжо адняло.*

Пан Юзаф Тадэвуш, перавядзі гэтаму Ротшыльду, каб усё было ясно.

**ЮЗАФ.** Калі ў сцяне, што нас падзяляе, пан Янкель выбіваў зубілам цагліны, каб зрабіць сховішча для грошай, я толькі слухаў і глядзеў, як з майго боку адна цагліна выпарлася і ледзьве не вывалілася. Пасля праз гэтую дзірку да мяне і пачало "звяр'ё" скакаць: і ваверкі, і зайцы, і бабры, і ваўкі, і ласі, а найчасцей мядзведзі з зубрамі і нават з тэатрам опэры ды балету.

*Янкель неверагодна губляецца і апускаецца ў крэсла-круцёлку.*

*Тарас Тарасавіч надае яму паскарэнне.*

**ЯНКЕЛЬ** *(калі крэсла спыняецца).* Ой! Ой! Ой!.. Вады!..

**ТАРАС.** Вады грамадзяніну Янкелеўскаму Я. Я.

*Янка-нямко бяжыць у сваю кватэру, прыносіць кварту вады, а сам разгортвае брызент, накладае на яго рамы і нешта мяркуе. На яго ніхто не звяртае ўвагі.*

Хопіць скавытаць. Обрыдла! Раскалвайцеся адразу, а то хужа будзет...

**ЯНКЕЛЬ.** "Всяк человек лжив", сказана ў пісанні, але ж гэта зусім не азначае, што Янкель будзе ілгаць любай уладзе, прэзідэнтавай вертыкалі і следству, бо ён ведае што такое наш суд – самы дэмакратычны ў свеце... І я не сказаў бы, што з боку майго дарагога суседа пана Юзафа Тадэвуша Пшэляхавіцкага тут нейкія козні ягіпецкія. І якой бы мярзотнай не была яго лічнасць і вера, але ж справядлівы словы яго, хоць мне гэта зусім не нравіцца. Але я дужа рады, што нарэшце ўсім нам па-чалавечы вельмі пашанцавала, хоць мы і розным багам молімся... А мамона – яна не пахне... яна не трайны адэкалон.

**ТАРАС.** Не цямні, Янкель, а кажы і быстра, што міне з табою рабіць, бо, як я панімаю, пан Юзаф краў крадзену мамону. *(Трасе торбу з грашыма).*

**ЯНКЕЛЬ.** Што рабіць, што рабіць?.. Яхлайку, таварыш маёр, яхлайку будзем рабіць, што па-вашаму азначае падзелімся на траіх па-брацку, пакуль сюды не прыехаў у сваім крэсле наш старшы брат, як той нязваны татарын. *(Ківае на дзверы Ахмета).*

**ТАРАС.** Ніякага яхлайку не будзе! Па абавязку стража сацыялістычна-кірмашовай маёмасці ўсё гэта *(трасе торбаю)* апрыходую і здам у камерцыйны банк. А ў цябе зараз жа вазьму адбіткі пальцаў і падпіску аб нявыездзе, а пад дзвярыма пасаджу АМОН.

**ЯНКЕЛЬ.** Ой вэй! Які выезд?! Куды выезд?! У цябе зараз мая торба, ты і выязджай разам з панам Юзафам. А можаце прыхапіць з сабою і гэтага тутэйшага. Няхай свет і на яго падзівіцца. А я ўжо застануся тут у гэтай прыдуркавай стране з яе АМОНам і дарагой, залатой, нашай міліцыяй...

*Янка-нямко рэжа брызент на кавалкі і накладае на рамы.*

**ТАРАС.** Называй саобшчыкаў і прозвішчы тых банкіраў ды кааператараў, якіх вы абрабавалі і забілі або зарэзалі. Чыстасардэчнае прызнанне зменшыць віну. *(Дастае паперы, аловак).* А я пачынаю пісаць пратакл ды ордэр на арышт... *(Па тэлефоне).* Алё, алё, я – Тарас Голапузінскі... Прыём, прыём... Як чуеце?.. Тады будзьце на гэтай хвалі!

**ЯНКЕЛЬ.** А пана Пшэляхавіцкага, выходзіць, вы ўжо дапыталі?

**ТАРАС.** Грамадзянін Пшэляхавіцкі Ю. Т. пра сваю антынародную, антыдзяржаўную дзейнасць сам усё напіша, а не напіша, то будзе сядзець у карцэры ў наручніках на двох з табою.

**ЯНКЕЛЬ.** Вам бы толькі палохаць ды пісаць, пісаць ды палохаць. Што за страна?! Што за народ?! Хлебам-маслам не кармі, віном-гарэлкай не паі, дай толькі папалохаць і напісаць. Што за свет, што за людзі. Што ні начальнік, то пісацель. Усе пішуць, усе даносяць, усе палохаюць барацьбой са зладзеямі заместа таго, каб рабіць дзела і грошы. Перапісалі ўсю паперу. І вертыкаль, і гарызанталь да ветру з голымі рукамі ходзяць. Бо ў кожнай газеце нейчы партрэт.

**ТАРАС** *(строга).* Грамадзянін Янкелеўскі, я прашу без дэмагогіі і негілізму односна партрэтаў вождзей у туалетных газетах.

*Янка-нямко нацягвае і прыбівае брызенты на рамы.*

**ЯНКЕЛЬ.** Паглядзіце, пажаласта, на іхную маёрскую светласць! Калі Янкель, быў партнёрам іхнага благароддзя па даміно і дурня ў карты, яно не саромелася запрашаць яго па-суседску прапхнуць запруджаны маёрскім золатам той жа ўнітаз, замяніць смярдзючае бідэ і паставіць казённы пісуар ва ўласнай ваннай. А калі Янкеля абадралі, як ліпку, калі ён стаў голым і бедным, як царкоўная мыш, то ён ужо больш не таварыш Янкелеўскі. Ён ужо проста, прасціця пажаласта, грамадзянін.

**ТАРАС.** Янкель – царкоўная мыш! Бачылі фрукта?! *(Амаль крычыць).* У нас увесь электарат ходзіць і свеціць голай с... У нас дзяржава пабіраецца па беламу свету. Суверэнну і незалежну расцягнулі, распрадалі і зайцоў на даляры прамянялі, а ён мне, службовай асобе, пра сваіх царкоўных мышэй, панімаеш!.. *(Стукае кулаком па стале).* Або зараз жа прызнаешся, дзе ўзяў гэта "звяр'ё" *(трасе торбай)*, або збірай сухары, а я вызываю "варанка". І не артачся! Павучыся сябе паводзіць у грамадзяніна Пшэляхавіцкага Ю. Т. Уліп пан і цяпер сядзіць ціха, бы ўмазаўшыся. Хоць і ўкраў крадзеныя мільёны... Або той жа Янка! Маўчыць і чакае свайго. *(Надзявае на Янку наручнікі).*

*(Працяг у наступным нумары.)*



№ 42 (530) 24 КАСТРЫЧНІКА 2001 г. Наша слова

Станіслаў Суднік

# Лідскія брандмуры ( брандмаўэры )

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Як відно, у статутах не прапісаны строгія нормы для брандмуроў. Але ў нейкіх дакументах яны існавалі, таму што ў сваім канчатковым праяўленні яны дайшлі да нас у выглядзе **"Супрацьпажарных нормаў праектавання будынкаў і пабудоваў"**, зацверджаных пастановай Дзяржбуда СССР ад 18 снежня 1980 г. № 196. У **"Нормах..."** запісана:

*"3.2.* ***Супрацьпажарныя сцены*** *(брандмуры, рэд.) павінны абапірацца на фундаменты ці фундаментныя бэлькі, узводзіцца на ўсю вышыню будынка ці забудавання і раздзяляць канструкцыі (перакрыцці, пакрыцці, ліхтары і інш.). Пры гэтым* ***супрацьпажарныя сцены*** *павінны ўзвышацца над страхой на* ***60 см****, калі хаця б адзін з элементаў пакрыцця, за выключэннем страхі, ці апорныя канструкцыі дахаў выкананы з гаручых матэрыялаў, і на* ***30 см****, калі ўсе элементы пакрыцця, за выключэннем страхі, або апорныя канструкцыі дахаў выкананы з цяжкагаручых і негаручых матэрыялаў.* ***Супрацьпажарныя сцены*** *могуць не ўзвышацца над страхой, калі ўсе элементы пакрыцця і дахаў, за выключэннем страхі, выкананы з негаручых матэры-ялаў.*

*3.4.* ***Супрацьпажарныя сцены*** *ў будынках з вонкавымі сценамі з гаручых і цяжкагаручых матэрыялаў павінны выступаць за плоскасць вонкавых сцен, за карнізі і звесы дахаў на* ***30 см.***

*3.5.* ***Супрацьпажарныя сцены*** *павінны разлічвацца на ўстойлівасць з улікам магчымасці аднабаковага абрушвання перакрыццяў, пакрыццяў і іншых канструкцый будынкаў і збудаванняў пры пажары.*

*3.6. У* ***супрацьпажарных сценах*** *дапускаецца рабіць вентыляцыйныя і дымавыя каналы так, каб у месцах іх размяшчэння мяжа агністойкасці* ***супрацьпажарнай сцяны*** *з кожнага боку канала быў не менш 2,5 ч."*

Як было сказана, гэта савецкія нормы 1980 года. Але ў лідскіх брандмурах рэалізаваныя параметры, якія дакладна адпавядаюць гэтым нормам. У большасці лідскіх дамоў з брандмурамі брандмур узвышаецца над страхой на **60 см** і выступае за сцяну на **30 см.**

Лідскія дамы з брандмурамі будаваліся як да рэвалюцыі, так і пры Польшчы. Параметры брандмуроў эдэнтычныя. З гэтага можна зрабіць выснову, што і пры Польшчы ў 1920-1939 г.г. былі ўзяты за аснову нормы Расейскай Імперыі. І не будзе нічога дзіўнага, калі такія ж параметры для брандмуроў мы знойдзем і ў сучасных польскіх будаўнічых нормах. *(Нажаль польскага будаўнічага статуту пакуль што проста не ўдалося знайсці).*

Брандмуры будаваліся з цэглы, або цэментна-пясчаных блокаў (пустакоў). Унутры некаторых брандмуроў праходзілі коміны. Так, як і зараз прадугледжана ў **"Нормах..."** *"(Савецкая, д.№ 28в,31б).*

Праўда, польскія ўлады ў 1920-1939 г.г. у індывідуальным плане дапукалі адхіленні ад нормаў. Так адзін яўрэй *(сучасны адрас: вул. Горкага, д. 106)* зажадаў зрабіць у брандмуры вокны. Улады дазволілі, але запатрабавалі, каб аконныя шуфляды і рамы былі стальныя, што і было рэалізавана. У адпаведнасці з сучаснымі нормамі любы матэрыял пры будаўніцтве можа быць заменены сталлю, без дальнейшых дазволаў і ўзгадненняў. На замену іншымі матэрыяламі патрэбна спецыяльнае экспертнае заключэнне. Іншыя вокны, якія зараз ёсць у лідскіх брандмурах, прабіты ўжо пры савецкай ўладзе, калі прафілактычныя супрацьпажарныя меры пры гарадскім будаўніцтве адышлі на другі план, а асноўная ўвага ўдзялялася сродкам тушэння пажараў і непазбежнаму пры гэтым гераізму. На практыцы пра брандмуры ў значнай ступені проста забыліся, хаця, як бачна, у адпаведных будаўнічых дакументах пра іх прадаўжаюць пісаць да гэтага часу.

*Прапанаваны матэрыял не прэтэндуе на паўнату раскрыцця тэмы, а хутчэй з'яўляецца запрашэннем да вывучэння яшчэ адной старонкі нашага гарадскога будаўніцтва. А лідскія брандмуры аказваюць гісторыкам і дадатковую паслугу. Паколькі брандмуры будаваліся толькі ў гарадах, то зараз па іх наяўнасці мы можам даволі дакладна гаварыць пра межы горада. Не абавязкова што мяжа горада праходзіла каля апошняга брандмура, але абавязкова, што дом з брандмуром - гэта гарадскі дом, таму і па Свярдлова, і па Энгельса, і па генерала Бяды, і па Крылова брандмуры - даволі дакладна делемітуюць межы перадваеннай Ліды.*

*Здымкі Артура Ганько.*

*(Усяго ў Лідзе сфатаграфавана 27 брандмуроў.)*



**Ліда, вул. ген. Бяды, д. д. 16 (1) і 18 (2). Комплекс з двух дамоў з брандмурамі. 1. Пачатак стагоддзя, брандмур з цэглы. 2. 1939 год, бандмур з блокаў.**



**Ліда, вул. Калініна, д. 27. Дом з брандмурам. Брандмур (1) з цэглы, з комінам унутры. У брандмуры прабітае акно.**



**Ліда, вул. ген. Бяды, д. 32. Дом з брандмурам. Брандмур (1) з цэглы.**



**Ліда, вул. Камуністычная, д. 21. Дом з брандмурам. Брандмур (1) з блокаў.**



**Ліда, вул. Савецкая, д. 28 в. Дом з брандмурам. Брандмур (1) з блокаў, з комінам унутры.**



**Ліда, вул. Камуністычная, д. 29. Дом з брандмурам. Пачатак 20-га стагоддзя. Брандмур (1) з цэглы. У брандмуры прабітае акно.**



**Ліда, вул. Горкага, д. 42. Дом з брандмурам. Брандмур (1) атынкованы.**



**Ліда, вул. Труханава, д. 6. Драўляны склад з брандмурам, які падзяляе яго на дзве часткі. Брандмур (1) з цэглы.**

**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Трэці з братоў Некрашаў, Янак, пасля партызанскага параду ў Менску за заслугі сям'і ў барацьбе з фашызмам быў адпушчаны дадому. Але па дарозе быў арыштаваны СМЕРШам, як дызерцір. Добра што гэта адбылося ў Капыльскім раёне, бо партызан па сялянскай наіўнасці не ўзяў у Менску ніякага дакумента, але старшыня сельсавета, у якім затрымалі Некраша, ведаў Адася і пацвердзіў, што Янак -- партызан.

Наступленне Чырвонай Арміі было адзначана тым, што на Касцяневе забілі некага адбіўшагася адзінокага немца. Там жа на поплаве яго і пахавалі. Ніхто на могілкі не пераносіў. Магіла была значна да 60-х гадоў. Пасля зараўнялася, а пасля зааралі разам з усім Касцяневам.

На Касцяневе ўсю вайну стаяў савецкі танк, кінуты яшчэ ў 1941 годзе. У 1944 годзе да танка вярнуліся танкісты і, як ні дзіўна, забралі схаваныя ў ім дакументы, хаця яшчэ ў 41-м солтыс выграб і зняў з танка ўсё, што здымалася, але дакументы ацалелі.

Да карыснага ад савецкага наступлення можна аднесці тое, што мая бабуля за два літры самагонкі купіла ў савецкіх салдатаў бракаваную кабылку. Кабылка, як казалі, была казацкая, не высокая, але атрымаўшы добры догляд спраўна служыла на гаспадарцы і паспяхова ўступіла ў калгас.

У 1944 годзе Чырвоную Армію ўжо сустрэлі з хлебам і соллю але на гэтым для Сейлавіч вайна не скончылася. Фронт рушыў далей, партызаны пайшлі з войскам, ці вярнуліся дадому. Але на гэты раз у Савецкай улады было дастаткова часу, каб разабрацца з сейлаўцамі і правесці мабілізацыю.

Бралі, як у Чырвоную Армію, так і ў Войска Польскае. Пры гэтым менш за ўсё глядзелі на веру і нацыянальнасць, таму шмат праваслаўных аказалася ў Войску Польскім, а каталікаў у Чырвонай Арміі.

На сённяшні ёсць практычна поўны спіс жыхароў Сейлавіцкага сельсавета, загінуўшых на франтах Вялікай Айчыннай вайны:

**Вёска Андрушы.**

**Ванагель Міхаіл Антонавіч.**
Вайскавое званне- шараговец. 74-ты стралковы полк. Загінуў 24.01.1945 г. Месца пахавання: Унтэркербсвальд, паўднёвей 3 км г. Эльбіна, Усходняя Прусія. Бацька Ванагель Антон Адамавіч, в. Андрушы.

**Ванагель Пётр Антонавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. 3-ці пяхотны полк 1-й польскай П. Д. Загінуў 21.04.1945 г. Германія, Бранденбург. Могілкі. Агульная магіла №1. Жонка Ванагель Магдалена Юзэфаўна, в. Андрушы.

**Грыгаровіч Сцяпан Мартынавіч.**
Дата і год нараджэння – 1915. Загінуў 16.04.1945 г. ва Ўсходняй Прусіі.

**Дашка Пётр Вікенцевіч.**
Вайскавое званне – гв. шараговец. 113 гв. стр. полк. Загінуў 3.02.1945 г. Месца пахавання: в. Трутнава, Швецкай акругі, Прыморскага ваяводства (ПНР). Бацька Дашка Вікенці Міхайлавіч, в. Андрушы.

**Жыгалка Канстанцін Адамавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. 4-ты польскі пяхотны полк. Прапаў без вестак 1.3.1945 г. Жонка Жыгалка Сафія, в. Андрушы.

**Любка Іосіф Адамавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. Год нараджэння 1914. Управа па ўліку стратаў. Загінуў 3.02.1945 г. Месца пахавання не вядомае. Жонка Любка Алена Паўлаўна, в. Андрушы.

**Семянкевіч Міхаіл Адамавіч.**
Дата і год нараджэння – 1900. Загінуў 1.12.1945 г. ва Ўсходняй Прусіі.

**Вёска Кунаса.**

**Багдановіч Мікалай Антонавіч.**
Прапаў без вестак.

**Жук Антон Адамавіч.**
Загінуў у 1943 г.

**Жук Васіль Пятровіч.**
Вайскавое званне - шараговец. 5-ты польскі пяхотны полк. Прапаў без вестак 1.03.1945 г. Бацька Жук Пётр, в. Кунаса.

**Клят Юльян Канстанцінавіч.**



Дата і год нараджэння – 1899. У Чырвонай Арміі з 1941, прапаў без вестак.

**Хвізюк Міхаіл Адамавіч.**



Вайскавое званне - шараговец. Управа па ўліку стратаў. Год нараджэння – 1918. Прапаў без вестак 20.08.1941 г. Бацька Хвізюк Адам Антонавіч в. Кунаса

**Любка Георгі Іосіфавіч.**
Дата і год нараджэння – 1907. У Чырвонай Арміі з траўня 1941, прапаў без вестак у 1941 г.

**Любка Канстанцін.**
Прапаў без вестак.

**Любка Пётр Мікалаевіч.**
Дата і год нараджэння – 1920. Прапаў без вестак.

**Пяцігор Сяргей Антонавіч.**
У Чырвонай Арміі з 1944 г. Загінуў 5.03.1945 г.

**Тасмінскі Антон.**
У Чырвонай Арміі з 1944 г. Прапаў без вестак.

**Вёска Сейлавічы.**

**Белік Павел Адамавіч.**
Вайсковае званне – шараговец. Дата і год нараджэння – 1903. Памёр ад ран 25.04.1945 г. Месца пахавання не вядомае. Жонка Белік Ганна Андрэеўна, в. Сейлавічы, Нясвіжскага раёна, Менскай вобласці.

**Васілеўскі Іосіф Антонавіч.**
Мал. сяржант. Загінуў 27.09.1945 г. у Польшчы.

**Войніч Іосіф Іосіфавіч.**
Вайскавое званне – шараговец. Дата і год нараджэння – 1916. Прапаў без вестак 27.04.1945 г. в/ч. п./п 52164, Войска Польскае. Жонка Войніч Тацяна, в. Сейлавічы.

**Гвіцка (Хвіцька) Юльян Міхайлавіч**
Вайскавое званне- шараговец. 4 польскі пяхотны полк ім. Дамброўскага. Загінуў 26.04.1945 г. Месца пахавання: брацкая магіла ў в. Аманіенфельдэ Барнімскага раёна (Германія). Жонка Гвіцка (Хвіцька) Аляксандра Антонаўна, в. Сейлавічы.

**Гушча Адам Антонавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. 145 асобны медсанбат. Памёр ад ран 2.02.1945 года. Месца пахавання: Польшча, Познаньскае ваяводства, на могілках гор. Выск. Жонка Гушча Алена Вікенцеўна, в. Сейлавічы.

**Гушча Іосіф Адамавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. 22 стралковая брыгада. Загінуў 20.03.1945 года. Месца пахавання: у брацкай магіле № 7 з паўночнага боку вёскі Шарнераступ Дунафельдвар (Венгрыя). Жонка Гушча Серафіма Аляксандраўна, в. Сейлавічы.

**Гушча Юльян Канстанцінавіч.**
Дата і год нараджэння – 1915. Загінуў 18.04.1945 г. у Германіі.

**Дрождзя (Дрожжа, Дрожджа) Антон Антонавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. Эвакашпіталь № 2647. Памёр ад ран 26.05.1945 г. Месца пахавання: в. Заган, вайсковыя могілкі, магіла №7 (Германія). Маці Дрожджа Аляксандра Іванаўна, в. Сейлавічы.

**Жураўскі Іосіф Іосіфавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. 610 стр. полк 203 стр. дывізіі. Загінуў 16.01.1945 г. Месца пахавання: в. Гібаўцы, ЧССР.
Маці Жураўская Вольга Францаўна, в. Сейлавічы.

**Ёдзік Павел Паўлавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. Год нараджэння – 1920. Рухомы палявы шпіталь № 654. Памёр ад ран 13.04.1945 г. Месца пахавання: Усходняя Прусія г. Бартэнштэйн, агульнашпітальныя могілкі, магіла № 26. Бацька Ёдзік Павел Андрэевіч, в. Сейлавічы.

**Качура Мікалай Андрэевіч.**
Вайскавое званне -шараговец. 766 стр. полк. Загінуў 2.03.1945 г. Месца пахавання: 1 км паўночней в. Шыменен, каля грунтавой дарогі (Усходняя Прусія). Жонка Качура Ганна Адамаўна, в. Сейлавічы.

**Мірашэўскі Іосіф Іосіфавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. 8-мы пяхотны полк Войска Польскага. Загінуў 16.04.1945 г. Месца Пахавання: На паўночна-ўсходняй ускрайне г. Ротэнбург над ракой Ніса (Германія). Сятра Мірашэўская Марыя, в. Сейлавічы.

**Мірашэўскі Эдвард Іванавіч.**
Вайскавое званне - шараговец. Загінуў 6.09.1945 г. Месца пахавання: на могілках г. Бірга ў р-не Перамышль. Маці Мірашэўская Марыя, в. Сейлавічы.

**Навоша Міхаіл Вікенцевіч.**
Загінуў 4.03.1945 г. у Германіі.

**Навоша Міхаіл Адамавіч.**
Дата і год нараджэння – 1917. Загінуў 20.08.1941 г.

**Новаш Яўген Паўлавіч.**
Вайскавое званне -партызан. Штаб Беларускага партызанскага руху. Загінуў 20.06.1944 г. Месца пахавання: не вядомае. Бацька Новаш Павел Антонавіч в. Сейлавічы.

**Новашаў (Навоша) Канстанцін Канстанцінавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. 171 стр. полк. Загінуў 21.04. 1945 г. Месца пахавання: г. Фішхаўзен (Усходняя Прусія). Бацька Новашаў (Навоша) Канстанцін Антонавіч, в. Сейлавічы.

**Петрашэўскі Ян Тадэвушавіч.**



Вайскавое званне -шараговец. 4-ты польскі пяхотны полк. Загінуў 3.03.1945 г. Месца пахавання: брацкая магіла каля в. Шэмфельд (Германія). Жонка Петрашэўская Марыя Адамаўна, в. Сейлавічы.

**Салавей Віктар Адамавіч.**
Дата і год нараджэння – 1913. Загінуў у лістападзе 1944 г.

**Санцэвіч Людвіг Ігнатавіч.**
Дата і год нараджэння – 1910. Загінуў 24.04.1945 г.

**Секержыцкі Антон Іванавіч.**
Дата і год нараджэння – 1923. В/ч і п/п 53323. Год нараджэння 1923. Памёр ад ран 4.03.1945 г. Месца пахавання: на шостых могілках (вайсковых) у г. Беласток. Бацька Секержыцкі Ян, в. Сейлавічы.

**Таратута Адам Іосіфавіч.**
Вайскавое званне -шараговец. 392 стр. полк. Загінуў 19 лютаг 1945 г. Месца пахавання: в. Дзітмансдорф, Усходняя Прусія. Жонка Таратута Вольга Мікалаеўна в. Сейлавічы.

**Таратута Канстанцін Віктаравіч.**
Вайскавое званне - шараговец. Год нараджэння – 1911. 45 запасны артылерыйскі полк. Утануў пры купанні 22.08.1944 г. Месца пахавання: в. Булыкова, Жабінкаўскага р-на, Берасцейскай вобласці.

**Хвенька Іван Сцяпанавіч.**
Вайскавое званне - гв. шараговец. 327 гвардзейскі горна-будаўнічы полк. Загінуў 18 верасня 1944 г. Месца пахавання: вышыня безымянная, што паўднёва-заходней вёскі Бачкоў (Чэхаславакія), брацкая магіла. Жонка Хвенька Марыя Сяргееўна, в. Сейлавічы.

**Хвіцька Аляксандр.**
Вайскавое званне -шараговец. 624 стр. полк. Загінуў 15.02.1945 г. Месца пахавання: на могілках в. Гросэ-Раўтэнберг Браўкенбергскага паветy, Кенігсбергскай губерні. Маці Хвіцька Марыя Антонаўна, в. Сейлавічы.

*(Працяг у наст. нумары.)*



НКО СССР
Несвижский Районный Военный Комиссариат
7 Апреля 1945 г.
№ 9

Извещение

Ваш муж Петрашевский Ян Тадеушевич уроженец [illegible] д. Сейловичи [illegible] в борьбе за социалистическую Родину, верный воинской присяге, проявив геройство и мужество погиб 3-го марта 1945 года. Похоронен братская могила около дер. Шемфельд (Германия). Настоящее извещение является документом для возбуждения ходатайства о пенсии (приказ НКО СССР № 220).

Несвижский Райвоенком
гв. подполковник (Никитин)

[illegible]

*Пахавальная запіска на Яна Петрашэўскага*

# Ян Булгак. Фотаінвентарызацыя Беларусі.

*6 кастрычніка спаўнілася 125 год з дня нараджэння Яна БУЛГАКА (памёр у 1950-м), беларускага майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, этнографа, фальк-ларыста.*

*Ён нарадзіўся ў вёсцы Асташына Навагрудскага раёна. Да 1912 года жыў у вёсцы Перасека Менскага павету. У 1919 – 39 гадах – кіраўнік лабараторыі мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце. Заснавальнік і старшыня фотаклуба Польшчы, Віленскага фотаклуба, Саюза польскіх мастакоў-фатографаў, Польскага фатаграфічнага таварыства. У розных этнаграфічных выданнях апублікаваў шмат здымкаў беларускіх краявідаў, вёсак, гаспадарчых пабудоў беларускіх сялян. Аўтар артыкулаў пра беларускі фальклор і краязнаўства, прац, прысвечаных мастаку Ф.Рушчыцу. Фотатэка і калекцыя здымкаў Булгака (каля 10 тысяч) згарэла ў 1944 годзе ў Вільні. Пісаў падручнік па эстэтыцы і тэхніцы фатаграфіі, краязнаўству, мастацтву. Многія фотаздымкі Булгака з беларускіх зямель зберагаюцца ў Вільні ў Нацыянальным гістарычным архіве і Нацыянальнай бібліятэцы Літвы.*

***Ларыса КАРАЧУН.***

Назву вёскі Перасека можа ніхто ніколі не згадаў бы, калі б не адна акалічнасць. Менавіта тут быў зроблены адзін з самых вядомых фотаздымкаў Яна Булгака, які аўтар, зыходзячы з пазіцыі этнографа, назваў проста і канкрэтна: "Бабулька-беларуска з маёнтка Перасека пад Менскам". Фатаграфія ўражвае сваёй лаканічнасцю і дасканалай кампазіцыяй. Саматканая хустка, накінутая на галаву і плечы жанчыны, канцэнтруе ўвагу на яе аскетычным твары. І гэты твор, шырока вядомы ў свеце, зроблены тут, побач. А мы нават не ведаем, дзе тая Перасека, ці існуе, увогуле, на белым свеце.

**ЯН БУЛГАК. СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ.**

Перасека сустрэла Яна Булгака правінцыяльнай цішынёй. Праз ліпавую алею дарога падыходзіла да мураванай брамы і далей – да аднапавярховага дома, за якім былі гаспадарчыя пабудовы. Невялікі парк, кусты бэзу і разнастайныя кветкі давяршалі маляўнічасць гэтага ўтульнага кутка. Наперадзе ў Булгака было жыццё, і трэба было ў ім вызначацца. Першае, што ён зрабіў у Перасецы, - ажаніўся са сваёй кузінай Ганнай Хаціскавай з Міраціч. Гэта падзея на некторы час заняла ўсе думкі Булгака. Адначасова пачаў працаваць настаўнікам у мясцовай школе і займаца фатаграфіяй, з асновамі якой пазнаёміўся праз свайго кузэна Караля Карповіча – аўтара некалькіх артыкулаў аб прыродзе навагрудскай зямлі, якія той ілюстраваў сваімі фотаздымкамі. У хуткім часе Я. Булгак так захапіўся фатаграфіяй, што стварыў у Перасецы фоталабараторыю. Эксперыментаваў з фатаграфіяй, атрымліваў парады ад французскага фатографа Канстанціна Пуе, з якім наладзіў перапіску. Але найбольшы ўплыў на творчасць Яна Булгака ў гэты перыяд аказала знаёмства з вядомым беларускім мастаком Фердынандам Рушчыцам, з якім пазнаёміўся ў Вільні ў 1910 годзе. Гэта знаёмства з цягам часу перарасло ў сяброўства, якім Я. Булгак вельмі даражыў. Сведчанне таму – кніга "Дваццаць шэсць гадоў з Рушчыцам", выдадзеная Булгакам у Вільні ў 1939 годзе.

Да 1912 года фотамастак жыве ў Перасецы, дзе стварае найбольш вядомыя этнаграфічныя здымкі краявідаў і вёсак, гаспадарчых пабудоў і сялян. Многія з іх былі надрукаваны на паштоўках, аб'яднаных у серыю "Тып беларускі". Гэта "Беларус з-пад Клецка", "Беларус з Меншчыны", згаданая ўжо "Бабулька-беларуска з маёнтка Перасека пад Менскам" і іншыя. Творчасць Булгака гэтага перыяду падняла на якасна новы ўзровень беларускую фатаграфію. У яго вучыліся, ён стаў вядомым не толькі ў колах фатографаў. Свае здымкі ён экспануе на выставах і дабіваецца поспеху. Адзін з першых дыпломаў атрымаў у 1912 годзе на выставе ў Менску.

Але ж Перасека стала цеснай для творчай натуры Яна Булгака, і ён накіроўваецца ў Вільню.

Шукаць вёску Перасека на карце Меншчыны аказалася справай безнадзейнай. І таму адправіліся мы ў мястэчка Самахвалавічы, у наваколлі якога, па нашых звестках, знаходзілася Перасека. Пашчасціла нам амаль адразу. У пашпартным аддзеле мясцовага сельсавета пацвердзілі, што такая вёска існуе, і падказалі, як да яе праехаць. Паблукаўшы, трапілі мы нарэшце ў Перасеку. Невялічкая, на дзесяткі два двароў, вёсачка прытулілася да сучаснай аўтамагістралі Берасце – Масква. На ўездзе – аніякай шыльды. Пайдзі здагадайся, што за вёска. Месца, дзе была сядзіба Булгака, мы знайшлі адразу: па самых высокіх у вёсцы клёнах і ліпах – рэштках былога парку. На вялікі жаль, - толькі месца, бо ад дома нічога не засталося. Вясковец Аляксей Ваўчок прывёў нас да ледзь прыкметнага ўзвышша, густа парослага бэзам: "Вось тут і стаяў дом. А рэшткі падмурка і зараз ёсць: тут у зямлю нічога ўбіць немагчыма. У доме ніхто не жыў – вось і разабралі яго па цаглінах пасля вайны. І ўязную браму таксама". Усё, што засталося з таго часу - рэшткі былога ледніка. Скляпеністае падзямелле перакрыта дахам з выбеленых сонцам дубовых плах. Уздоўж пад'язной дарогі да былой сядзібы стаяць дрэвы "другога пакалення", якія выраслі ад карэнняў старых дрэў.

Здзівіла, што прозвішча Булгакаў тут некаторыя памятаюць. І нават тое, што Булгак займаўся фатаграфіяй. Праўда, больш згадвалі "пані Булгачыху", як назвала жонку фотамастака жыхарка вёскі Алена Антонава. Бо сам Булгак увесь час кудысьці ад'язджаў.

Вось так і перагарнулі мы яшчэ адну старонку жыцця Яна Булгака, нанава адкрыўшы для сябе гэты гістарычны куточак, які, на жаль, час не пашкадаваў.

У Вільню Ян Булгак прыехаў з намерам адкрыць тут сваю майстэрню, што і зрабіў у канцы 1912 года. Але да гэтага ён накіроўваецца ў Дрэздан – цэнтр фотатэхнічнай вытворчасці і мастацкай фатаграфіі, дзе ўдасканальвае сваё майстэрства ў вядомага партрэціста Хуга Эрфурта. Булгак вельмі крытычна адносіўся да новых плыняў у фотамастацтве. Выхаваны ў традыцыях рамантызму, ён і ў сваёй творчасці застаўся прыхільнікам гэтага кірунку.

Віленскі перыяд творчасці Яна Булгака самы плённы. Ён супрацоўнічае з часопісам "Вестник фотографии", дзе змяшчае артыкулы і фотаздымкі. З 1919 года ўзначальвае лабараторыю мастацкай фатаграфіі Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, дзе працуе да 1939 года. Менавіта ў гэтыя гады ён робіць тысячы здымкаў, у якіх паказвае Віленшчыну, Нарачанскі край, Браслаўшчыну, Вілейку, Тракай, Нясвіж, Мір, Крэва... Ён выканаў велізарную працу, як сам пісаў, па "фатаграфічнай інвентарызацыі віленскіх архітэктурных помнікаў, ваколіц і нарэшце, усёй Польшчы". Гэта была самая грунтоўная (каля 11 тысяч негатываў) праца фотамастака, якая стала асновай збору "Польшча ў фатаграфіях Яна Булгака". Адначасова піша кнігі па тэорыі фатаграфіі. Вядомы яго вучэбны дапаможнік "Фотаграфіка. Падручнік па мастацкай фатаграфіі" (1931 г.), "Тэхніка бромавая" (1933 г.), "Эстэтыка святла. Асновы фотаграфіі" (1936), "Пра першых віленскіх фатографаў XIX стагоддзя" (1939 г.).

У 1932 годзе Ян Булгак быў абраны старшынёй "Фотаклуба Віленскага", які аб'ядноўваў вядомых фатографаў таго часу: Эдмунда і Браніславу Зданачовых, Станіслава Турскага, Войцаха Буйко, Генрыка Германовіча і іншых.

Прыкметнай з'явай стала выданне цыкла пад агульнай назвай "Вандроўкі фатографа", у якім Я. Булгак разважаў аб мастацтве, дзяліўся ўражаннямі ад наведвання розных мясцін. І ўсё гэта ілюстраваў фатаграфіямі.

З вайной у верасні 1939 года пачынаецца самая складаная і трагічная частка яго жыцця. Ні пра якую творчасць не было і гаворкі. Здымкі на дакументы – усё, чым жыў у гэты час Я. Булгак. Але ж сапраўдная трагедыя напаткала яго (ды і сусветнае фотамастацтва) 10 ліпеня 1944 года, калі ў час вызвалення Вільні згарэў дом № 3 па вуліцы Ажэшкі, а разам з ім фоталабараторыя і архіў. "...Загінула абсалютна ўсё, над чым працаваў і што стварыў на працягу сарака год, знік, ператварыўся ў попел мой фатаграфічны і літаратурны набытак", - пісаў пазней Ян Булгак. А бяда адна не ходзіць. Нечакана памірае жонка...

Можна толькі здагадвацца, з якім болем пакідаў Ян Булгак спустошаную Вільню, што была ўжо ў межах іншай дзяржавы.

З 1946 года Ян Булгак – у Варшаве, дзе прымае ўдзел у стварэнні Саюза польскіх фотамастакоў. Нягледзячы на цяжкасці пасляваеннага жыцця, ён разам з сынам Янушам ажыццяўляе шэраг паездак па заходняй і паўночнай Польшчы. Менш чым за пяць год было зроблена каля васьмі тысяч фотаздымкаў. Гэта была апошняя праца фотамастака.

Памёр Ян Булгак 4 лютага 1950 года.

* * *

Польшча ўжо выказала сваю павагу да Мастака, пахаваўшы яго на Алеі Заслужаных. Віленцы ўшанавалі яго памятным знакам. А што ў нас? Што можна зрабіць, каб яго імя не забылася і заняло пачэснае месца ў гісторыі Беларусі?

Была ініцыятыва фотаклубаў "Менск" і "Горадня", Навагрудскага райвыканкаму на чале з яго старшынёй Анатолем Лісам аб правядзенні міжнароднага фотаплянэру на Наваградчыне з запрашэннем фотамастакоў Літвы і Польшчы. І быў намер у час плянэру ці пры адкрыцці выставы па выніках плянэру адкрыць памятны знак на радзіме Яна Булгака ў Асташыне. Не павінна была застацца ў баку Асташынская базавая школа. Як не выкарыстаць такі выхаваўчы момант і не арганізаваць вучняў школы на добраўпарадкаванне дома і парку былой сядзібы Булгака?! Думаю, што ёсць магчымасць сумеснымі намаганнямі фотамастакоў Беларусі, Літвы і Польшчы зрабіць калі не музей, то невялічкую экспазіцыю, прысвечаную Булгаку, у адным з класаў школы.

***Яўген Казюля.***

**P.S.** Аўтар выказвае шчырую падзяку намесніку старшыні Саюза фотамастакоў Літвы Станіславу Жвіргждасу за дапамогу ў падрыхтоўцы публікацыі.

*Пра тое, што з гэтых ідэй рэалізавалася мы спадзяёмся паведаміць. А пакуль "Белпошта" выдала мастацкі канверт да 125-годдзя Яна Булгака.*

Ян Булгак. Навагрудак. Староства. (1930-я гады)

**Канверт, выпушчаны "Белпоштай" да 125-годдзя Яна Булгака**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 10. 2001 г.
Наклад 3750 асобнікаў. Замова № 2291.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
***Кошт у розніцу:*** 80 руб.